Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

№ 12 Нядзеля, 10 Жніўня 1924 г. Год I.

# ГРАМАДЗКІ ГОЛАС



Выходзі… тыдзень. Цана нумару 15 грошай.

Падпісная ца… …лоты 20 гр. За… …даражэй.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Людвісарская вул. дом № 4. (Wilno, Ludwisarska 4). Рэдакцыя адчынена ад 10—2 гадз. Рэдактар прымае ад 11—1 гадз. удзень, апрача сьвятаў.

Цана абвестак за радок пэтыту: на 1 стар. — 15 гр. у тэксьце — 10 гр. на апош. стар. — 5 гр.

## Бандытызм.

Слова гэтае неяк увайшло ужо у моду, не выклікаючы тае агіды, якая заложана у зьмест дзеяньня, каторае гэтым словам называецца.

У нас тутака бандытызм прыняу паграажальныя разьмеры, пранікаючы туды, дзе яго і прысьніць было-б трудна.

Хутка ужо трэ' будзе разьдзяляць бандытызм, па характары яго праяуленьня, на гэткія, напрыклад, катэгорыі, як — бандытызм унутраны і бандытызм заграмічны.

Ці ня у гэты бок кіруюцца людзі нашага часу, ці не пачынае браць верх пасьляваенная мораль готэнтоцкага стылю?

Жудасна дый толькі.

Нячуваны напад на Стоупцы нейкіх заграмічных, паваеннаму вымуштраваных і амаль не па апошняму слову ваеннае штукі азброеных, бандытау зьяуляецца тыпічнай праявай, калі гэтак сказаць можна, заграмічнага бандытызму.

Разгром места й вакзалу Стоупцау, аграбленьне дзяржауных установау, чалавечыя ахвяры, адступленьне, прасьледаваньне, пагранічная страляніна — усё гэта было-б у перадваенныя часы гэткім эуропэйскім скандалам, з якога мог-бы раптоуна выбухнуць сапраудны ваенны пажар. Цяпер да гэткіх штукау як быццам усе прывыклі, як быццам іначай, дык і жыццё было-б нудным, невясёлым.

А тымчасам, сам па сабе бандытызм, якой-бы ні быу ён катэгорыі, ня робіцца ані йнакшым, чымся дауней. Сутнасьць дзікага, недастойнага сярод культурнага чалавецтва, зьявішча застаецца тэю самаю па сваёй агідзе, дзічыні і зьверскасьці.

Можна пярознаму тлумачыць прычыны пагранічнага бандытызму, можна на усялякі лад дашуквацца хто у ім вінават, але-ж рост самога агіднага зьявішча ня варт таго, каб займацца ім, як нейкаю новаю галінаю судоваправае навукі. Гнюснае дзіцятка пасьляваенных, ці ваенных гадоу павінна быць зьведзена з жыцьця

І трэба спадзявацца, што для гэтага будуць ужыты усе меры, якімі можа распараджацца чалавечы розум.

Стаупецкі эпізод узварушыу цэнтральныя органы дзяржаунае польскае улады, аб ім пачауся абмен нотамі паміж дыплёматыяй, савецкі пасол у Варшаве меу нараду ужо з дырэктарам палітычнага дэпартамэнту міністэрства заграмічных справау і некаторыя газэты пасьпелі ужо паведаміць, што істнуе замер стварыць мяшаную польска-савецкую камісію для барацьбы з бандытызмам на граніцы.

Адным словам дзікі эпізод, перайшоушы усякую меру выклікау саусім зразумелую трывогу.

А што датычыць нязвычайнасьці, абсолютнай ненармальнасьці у суседзкіх адносінах дзьвюх дзяржавау таго, што раз'ігралася у Стоупцах, дык тут і за галаву схапіцца мала ад зьдзіуленьня, як гэта усё магло стацца.

Некалькі злоуленых бандытау ужо далі свае паказаньні перад злавіушаю іх уладаю і, як гэта ні прыкра паутараць, з гэтых паказаньняу выяуляецца, што банда, напаушая на Стоупцы адкрыта падгатаулялася у сталіцы Усходняе (Савецкае) Беларусі, у Менску, недзе сабе на Падгорнай вуліцы; кожны бандыт дастау ад інструктароу пры перапраўе за граніцу па 130 набояу на стрэльбу і па 10 на рэвальвэр, даны былі гранаты, а таксама й кулямёты і на што?

А на тое, каб напасьць на мястэчка тут у Заходняй Беларусі, па гэтым баку граніцы.

Ці падумау хоць адну мінуту той, хто давау зброю у рукі бандытау, што ён чаупе? Ці падумау хоць на міг, чым пахне усякі бандыцкі напад і пасьледзтвы яго ліквідацыі — трывога, страляніна, бітва саусім як на вайне, — для мірнага пагранічнага насяленьня ні у чым не вінаватага, апрача хіба толькі таго, што мае няшчасьце быць прыкованым да сваіх родных сялібау пры гэтай найстрашнейшай граніцы?

Які зьмест у падобны напад можна улажыць, апрача чыстабандыцкага зьместу? Якое імя можна даць падобнаму зьявішчу, апрача таго, якім яго прынята разумець. А разумець нельга інакчай, як праступленьне проці мірнага беларускага народу, які знаходзіцца па гэтым баку граніцы. Калі палажэньнем нашага тутэйшага насяленьня вельмі пахваліцца і так нельга, дык яно яшчэ болей пагаршаецца няпрошанымі апякунамі з Менску, якія, па сваёй палітычнай дурасьці, думаюць нешта тут перарабіць насыланьнем з-за граніцы грабежніцкіх ды забойчых бандау.

Праўда, чуваць было, што у Менску легалізаваліся ужо, увайшоушы у урадовую расейскую партыю розныя цёмных справау майстры, якія з большага разводзілі муту, седзячы тут у Вільні у сярэднялітоускія часы, маючы тады іншую палітычную веру. Іхняя прывычка спэкуляваць на беларускай народнай цемнаце, як відаць, не дае ім спакойна сядзець у новай рэзыдэнцыі і, няздольныя на нішто людзкае, яны прабуюць займацца прывычнаю для іх справаю, думаючы, што гэтым робяць нейкую вялікую палітыку.

Хто-б там ні піхау да нас цераз граніцу банды, мы ведаем толькі адно, што гэтым ён тутэйшых беларусау бандытамі ня зробіць.

Сьлепата народная чэзьне. Мужыцкім інстынктам сваім народ наш разумее, што патрапіць ён сам бяз ніякіх дабрадзейных апякуноу дабіцца легальна сваіх нармальных правоу на істнаваньне, перахавае і палепшыць свой дабрабыт, даючы магутны адпор нездаровым у яго ціхім жыцьці праявам.

А на гнюсны бандытызм народ так і глядзіць проста, як на бандытызм, якога-б ні быу паходжаньня гэты апошні.

---

## Пачатак аздараўленьня Эўропы.

Лёнданская конфэрэнцыя блізіцца к канцу. Усе пэсымістычныя прадсказаньні, абапёртыя на першапачатковых труднасьцях, выцякаўшых з процілежных пунктаў гледжаньня Англіі і Францыі, ня спраўдзіліся. Здаровы розум узяў, урэшце, гару. Найшлі на компроміс як тая, так і другая старана. І ў канцы канцоў была выраблена компромісная формула, каторая задавальняе як Францыю, зацікаўленую ў тым, каб ёй была выплачана належачая ад Нямеччыны кантрыбуцыя. так і Англію, а таксама і Амэрыку, зацікаўленую у эканамічным дабрабыце Нямеччыны. Апрача таго, даны задавальняючыя гарантыі амэрыканскім банкірам, якія павінны пазычыць Нямеччыне 800-мільённую пазычку на падставе пляну Давіса.

Ранейшыя пэсымістычныя віды на вынікі Лёнданскай конфэрэнцыі былі абасновапы на тым, што ніхто не спадзяваўся такіх вялікіх уступак з боку Францыі, на якія яна пайшла ў самай рэчы. Зусім магчыма, што калі-б замест прэм'ера Эрыо на чале французкай дэлегацыі ў Лёндане быў ранейшы прэм'ер Пуанкарэ, гэта згода можа й ня была-б дапята гэтак хутка. Вядома, што ўнутры самой французкай дэлегацыі ідуць моцныя спрэчкі паміж Эрыо, староньнікам компромісвага ладу і рэштай сяброў дэлегацыі на чале з ваенным міністрам генэралам Нольле, каторы пагражае прэм'еру стаей адстаўкай, калі не пачне больш энэргічна бараніць французкі пункт гледжаньня. І Эрыо трэ' было паддацца вымаганьням рэшты сяброў свае дэлегацыі.

Але галоўная заслуга ў дапяцьці добрых вынікаў Лёнданскай конфэрэнцыі належыць Амэрыцы. Англія, Францыя, Бэльгія і Італія зьяўляюцца амэрыканскімі даўжнікамі. У Амэрыцы знаходзіцца галоўная маса сусьветнага золата. Ад амэрыканскай дапамогі залежыць эканамічнае аздараўленьне ўсяе Эўропы. Значыцца, з голасам амэрыканскага ўраду і капіталістых павінны былі лічыцца на лёнданскай конфэрэнцыі. А амэрыканскі пункт гледжаньня такі, што каб у будучых адносінах паміж Нямеччынай і саюзьнікамі былі адхілены па магчымасьці ўсе прычыны новых конфліктаў, падобна да рурскага і інш. Толькі ў спакойнай палітычнай атмосфэры магчыма міжнародная эканамічнае супрацоўніцтва, якое сваім парадкам зьяўляецца найлепшай гарантыяй агульнага спакою. Пры гэткіх варунках Амэрыка гатова прысьці на дапамогу з усімі сваімі агромнымі капіталамі. Каб выясьніць амэрыканскі пункт гледжаньня і давясьці саюзьнікаў і Нямеччыну да ўзаемнай згоды, амэрыканскі статс-сэкрэтар (міністар) па заграмічных справах асабіста зрабіў адведзіны ў Лёндан, Парыж, Брусэль і Бэрлін і радзіўся з урадамі адпаведных гаспадарстваў. Амэрыка ў сучасны момант мае такі вялізны ўсясьветны аўторытэт, што аб'езд прадстаўніка Амэрыкі ня мог не зрабіць уплыву як на саюзныя, так і на нямецкі ўрады, ў сэнсе ўзаемнай уступчывасьці.

Пасьля аканчальнага дапяцьця згоды саюзьнікаў і амэрыканцаў паміж сабою, ў Лёндан запрошана нямецкая дэлегацыя, каторай будуць запрапанованы апрацованыя пастановы. Але гэтыя пастановы ёй ня будуць прапанаваны ў форме ультыматыўнай, як Вэрсальскі трактат, ад подпісу якога ў свой час Нямеччына адмовілася. Калі-б апрацованыя ў Лёндане пастановы былі зусім немагчымы да прыняцьця, то, ў такім выпадку,

Амэрыка таксама не дала-б па іх сваё згоды. Значыцца, хаця Нямеччына і ня прымала удзелу ў часе выраба гэтых пастаноў, але інтарэсы яе ў значнай меры абаронены Англіяй і Амэрыкай. Нямецкай дэлегацыі застаецца ўнясьці толькі некаторыя папраўкі і даць сваю згоду на прыняцьце выробленых конфэрэнцыяй пастановаў у цэлым. І не падлягае ніякому сумліву, што нямецкая дэлегацыя дабраволна прыме новыя варункі далейшай выплаты даўгоў.

А як толькі будзе падпісана агульная згода паміж саюзьнікамі і Нямеччынай і пачнецца праводзіцца ў жыцьцё новы рэпарацыйны плян Давіса, паплывуць у Эўропу амэрыканскія капіталы, што ў часе вайны былі высмактаны з Эўропы. А разам з прытокам сьвежых грашавых сіл пачнецца і эканамічнае аздараўленьне Эўропы.

І. С.

# Польская нота да ўраду С. С. Р. Р.

6-га гэт. жніўня міністар заграпічных справаў п. Скржынскі паслаў гэткую ноту паслу Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік у Варшаве Леаніду Оболенскаму:

„Пане Пасол. Маю гонар прасіць Вас аб паданьні да ведама Ураду Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік ніжэйшага: ўночы з 3 на 4 жніўня бягучага году на паўночны ўсход ад мясцовасьці Качкуны, Стаўпецкага пав. перайшлі граніцу Польскае Рэспублікі тры банды ў галоўнай сіле каля 100 чалавек, пры васьмёх кулямётах, а таксама значным ліку стрэльбаў, рэвальвэраў і ручных гранатаў.

А 2 гадзіне ўночы 4 жніўня гэтыя банды напалі на павятовае места і чугуначную станцыю Стоўпцы, заатакавалі і аграбілі ў вышэйсказанай мясцовасьці некаторыя дзяржаўныя установы, як старэства, скарбовая каса і паштова-тэлеграфны ўрад, зрабілі рад забойстваў, у тым ліку сямёх паліцыянтаў і аднаго вураднiка старэства, пасьля чаго ў барацьбе з паліцыяй і аддзеламі войска адышлі да граніцы ў бок Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік, пры чым часьці каля 15 асобаў удалося перайсьці граніцу ў двух кілёмэтрах на поўдзень ад пагранічнага пункту Колосава. Гэтыя банды пакінулі тры кулямёты і шмат іншае зброі.

Тыя, што засталіся, бандыты агочаны ў суседніх з названымі мясцовасьцямі лясох, пры чым да сяголетняга дня значная часьць іх ужо злоўлена, а тыя, што застаюцца, будуць зьліквідованы ў найбліжэйшым часе. Злоўленыя бандыты паказалі, што вайсковае прыгатаўленьне, каб зрабіць напад на Стоўпцы адтрымалі ў працягу апошніх шасьцёх месяцаў у Менску, у спэцыяльнай арганізацыі, прызначанай да праводжаньня бандыцкае акцыі ў Польшчы.

Кіраўніцтва вышэйсказанае арганізацыі, маючай ваенны характар, знаходзіцца ў Менску на Падгорнай вуліцы. Школеньне бандытаў адбываецца ў Менску на Нямецкай вуліцы. Падзелены яны на групы, на чале якіх знаходзяцца спэцыялістыя ваенныя інструктары. Напад на Стоўпцы быў наперад старанна з'арганізованы і упляновваны, пры чым кожная з бандаў мела паверанаю ёй спэцыяльную задачу. Бандыты паказалі далей, што 29 ліпня бяг. году ўсе тры банды былі вывезены цяжкімі самаходамі з Менску ў раён Койданава, скуль пайшлі да польскае граніцы, якую перайшлі ўночы з 3 на 4 жніўня.

Перад пераходам граніцы інструктары раздалі бандытам па сто трыццаць набояў на стрэльбу і па дзесяць набояў на рэвальвэр. Характэрным зьяўляецца, што ў той самы час, бо 26 ліпня пастарунковы дзяржаўнае паліцыі Язэп Гура, які поўначы службу на граніцы ў ваколіцы пункту, ў якім перайшлі граніцу банды, быў схоплены шасьцьма коннымі і трома пешымі жаўнерамі чырвонае арміі, якія з гэтай мэтаю перайшлі граніцу паміж стаўпамі № 890 і 891.

Падаючы вышэйсказанае да ведама ўраду Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік, Польскі Урад сьцьвярджае, што напад на Стоўпцы і прыгатаўленьне яго на тэрыторыі Саюзу ня можа ў далейшым заставацца невядомым саюзнаму ўраду. У сувязі з гэтым Польскі Урад чакае ад Саюзнага Ураду выданьня і ўвядзеньня ў якнайкарацейшым часе ў жыцьцё загадаў, якія зрабілі-б немажлівым прыгатаўленьне і вышколеньне на тэрыторыі Саюзу бандыцкіх арганізацыяў, а таксама пераход польскае граніцы.

Польскі Урад выказвае прыпушчэньне, што Саюзнаму Ураду прыйдзе гэта тым лягчэй, таму што напад на Стоўпцы не зьяўляецца адасобленым фактам. У працягу другое паловы бягучага году ўходжаньне на польскую тэрыторыю бандаў з тэрыторыі Саюзу, а таксама выконваньне імі праступных дзеяньняў зрабілася амаль ня штодзенным зьявішчам.

Польскі Урад зьяўляецца змушаным з цэлым націскам зьвярнуць увагу Саюзнага Ураду на гэту анармальную сытуацыю, якая пачынае ў парадку хронолёгічным парушаць спакой польска-саюзнае граніцы, а ў надзеі, што Саюзны Урад зразумее неабходнасьць палажыць канец плянавым, арганізованым, старанна прыгатоўленым, тэхнічна экіпірованым і часта паўтараным выпадам, якія мусялі-б вытварыць на граніцы стан рэчаў, яскрава спрэчны з імкненьнем да устанаўленьня добрых, напраўных і мірных суседзкіх адносін".

# Палітычная хроніка.

**У Польшчы.**

— Міністар заграпічных справаў, прымаючы ў сябе 2-га жніўня г. г. пасла Саюзу Социялістычных Радавых Рэспублік Оболенскага, катэгорычна патрэбаваў ад яго выпушчэньня на свабоду арыштованых у Ленінградзе экспэрта польскай дэлегацыі спэцыяльнай мяшанай камісіі п. Сахоневіча і вураднiка гэтае камісіі п. Станіслаўскага.

— Апрача пераданьня пасольству С. С. Р. Р. у Варшаве вэрбальнай ноты, міністар заграпічных справаў п. Скржынскі тэлеграфна даручыў польскаму chargè d'affaires у Маскве зрабіць інтэрвэнцыю перад савецкім урадам з прычыны нячуванага нападу на Стоўпцы.

— Паліцыя арыштавала савецкага вураднiка „внешторга", ў Варшаве, знайшоўшы ў яго пачак камуністычных адоваў.

— 7-га гэт. жніўня дырэктар палітычнага дэпартамэнту Міністэрства Заграпічных Справаў Мораўскі прыняў пасла С. С. Р. Р. Оболенскага, з якім абгаварываў пытаньне аб арэшце ў Петраградзе сябра польскае камісіі з аднаго боку, і вураднiка савецкага пасольства ў Варшаве—з другога. Апрача таго паднімалася пытаньне аб нападзе на Стоўпцы.

— „Echo Wars." паведамляе, што істнуе замер стварыць польска-савецкую мяшаную камісію для барацьбы з бандытызмам на граніцы.

— Прэм'ер В. Грабскі скарочвае свой одпуск і вяртаецца ў Варшаву.

— У Варшаву прыбывае гэнэрал Рыдз-Сміглы, які закрыў граніцу недалёка ад Стоўпцаў. Ен зробіць даклад у палітычным камітэце Рады Міністраў.

**За граніцай.**

— У **Італіі** дасюль яшчэ ня знойдзены труп таямніча забітага пасла—социялісты Маттэотті. Як паведамляюць з Рыму, зробленая на галоўным могільніку эксгумацыя трупа невядомага чалавека выказала, што гэта ня труп Маттэотті.

— У **Клайпэдзе** выкрыты згавор проці **Літвы**. Нямецкая газэта „**Berliner Tageblatt**" паведамляе, што ў згаворы было каля 500 чалавек. Яны замерваліся захапіць казармы і разброіць літоўскае войска. Пасьля захапленьня важнейшых пунктаў, у места мелі ўвайсьці гітлераўскія арганізацыі з Тыльзыту.

# ТЫПЫ ПАЛЕСЬСЯ.

*(Глядзі № 11 „Грам. Голасу").*

Ня гледзячы ні на якія аблавы і засады на грабежнікаў, апошнія грабілі, забівалі людзей і ніякая паліцыя і войска не маглі даць ім рады.

Пра Рубяжыцкую кантору пісалі ужо ува усіх газэтах. Шмат прыставоў пайшло пад суд, шмат аддалі душу Богу, а мо' і чорту, гэтае пытаньне асталося адкрытым.

Нарэшце Міністэрства Унутраных спраў зрабіла пастанову: „паслаць спрауніка Сыча у той павет, у якім буяніла кантора". Яму далі срок, каб у тры тыдні зьліквідаваў ён кантору.

Ужо прайшло ня толькі тры, але цэлых дванаццаць, а спраунік Сыч усё ніяк ня мог зваяваць Рубяжыцкае канторы.

Дык ня дзіва, што ён з станавым рашаў гэтае пытаньне на усялякі лад у сваім габінэце.

Гетак было часта, гэтак было і у гэты раз.

Калі жонка спрауніка соладка спала і сьніла пра перамогу свайго мужа над грабежніцкай канторай, Аудыцкі вёў доўгую гутарку з вураднікам Мятлой, аб той самай канторы; і ня дзіва, што усе гаманілі аб канторы, калі нават міністры у сталіцы і тыя гаманілі за кавай і у салёнах аб гэтай самай канторы, а убраныя панічы пужалі паненак на вуліцах сталіцы зноў-жа гэтаю самаю кантораю.

— Далажы ці што, іх высокаблагародзію, а? — казау вураднік Мятла Аудыцкаму, даючы яму рубля, бо ведау, што награда патрэбна сторажу спраунікавай асобы, як рыбе вада...

— Папрабую, — рашыуся Аудыцкі, хаваючы рубель у кішэнь і на насках увайшоу у пакой.

Падайшоушы да дзьвярэй габінэту, ён пастукау і праз мінюту выцягнууся паваеннаму.

— Чаго? — падняу на яго галаву, зірнуушы, спраунік

— Так што вураднік Мятла, — ціха зашаптау Аудыцкі.

— Мятла! — гаркнуу на увесь звой гравы бас спраунік Сыч. — Пазваць Мятлу сюды! — зароу ён.

Са усіх ног кінууся Аудыцкі па вураднiка.

Але той, ужо учууушы, сам бег, колькі меу моцы у габінэт, не запомніўшы усадзіць у руку старанлівага Аудыцкага другі рубель.

— Мятла! — спаткау яго спраунік і схапіу падняушыся з канапы у свае абняцьці атарапеушага, нічога ня ведаушага вураднiка, які ніяк ня мог сьцяміць, што гэты сон знача, што яго так шчыра цалуе *сам* спраунік.

— Мятла! Родны Мятла! Ты адзін! — басіу спраунік, цалуючы нічога неразумешага вураднiка.

— Так точна, Мятла, адзін, — адказавау ён не рашуча, цмокнуушы спрауніка у голены твар...

— Ну, сядай, сядай тутака, ось побач са мною! Прыстау! Мятла, а? Мятла! Сам Бог паслау! — басіу спраунік і зноу цалавау вураднiка, садзячы разам з сабою на канапу.

— Так, так сам Бог! — лапатау ахмялеушы станавы і таксама лез цалавацца з нічога неразумеушым вураднікам.

— На, пі, друг! Збавіцель! — грымеу спраунік і сунуу яму чарку з гарэлкаю.

— Што за праява! — думау Мятла. — Ці ня сон гэта усё? — меркавау ён і нават, каб ня убачылі, шчыпануу сябе за ляжку.

Але не! Дзе там сон! Ява! Самая праудзівая ява! Ен, ён, просты вураднік Мятла, сядзіць на канапе з самым спраунікам, а прыстау рэжа яму кілбасу, налівае чаркі і нават цара патрэт і той, як-бы,ківае яму галавой і кажа: — Не робей!

Мятла, глянуушы на патрэт цара, гатоу ужо быу ускочыць і выцягнуцца ва фрунт, але апамятавушыся, што гэта толькі малюнак, трохі пасьмялеу і гаркнуу:

— Рад старацца Вашскародзе!

— Ось, ось, пі! Я рад! Я... Сам Бог паслау! — гаманіу спраунік.

— Цяпер, канец для канторы! — крыкнуу прыстау.

Ад гэтага успаміну аб канторы, Мятла чуць не падавіуся кавалкам кілбасы, але удар, у плечы кулаком спрауніка, памог кавалку шчасьліва папасьць у жывот.

— Так, брат Мятла, на цябе адна надзея! Зьнішчож, браце, кантору! Азалачу! — зьвярнууся да яго спраунік.

— Вось яно што! — праняслося маланкай у галаве вураднiка, — мая мара зьбываецца...

— **Турэцкі** ўрад даў адказ ангельскаму ўраду на апошнюю ноту аб справе Мосулю, адначасна даручаючы турэцкаму упаважненаму ў Лёндане Гікмэт-Бэю завязаць аб гэтай справе перагаворы з ангельскім урадам. Зьмест турэцкага адказу трымаецца ў тайне.

— Прыбыўшая ў **Лёндан** 5 жніўня **нямецкая дэлегацыя** была спатканa на вакзале прадстаўнікамі міністэрства заграпічных справаў, а таксама сябрамі нямецкай амбасады.

— Паводлуг **бэрлінскіх** вестак, нямецкая дэлегацыя паставіць на лёнданскай конфэрэнцыі гэткія трэбаваньні: звальненьне ўсіх арыштованых на окупованай тэрыторыі, незабаўнае ачышчэньне Руры і адрачэньня саюзьнікаў ад усялякіх індывідуальных актаў паасобнае саюзнае дзяржавы ў адносінах да Нямеччыны.

— **Нямецкія** газэты пішуць, што мэморандум нямецкае дэлегацыі працівіцца санкцыям. Немцы ня могуць згадзіцца на права ўжываньня санкцыяў асобнымі дзяржавамі. Далей у мэморыяле гаворыцца аб эвакуацыі Руры.

— **Англа-савецкія** перагаворы ў Лёндане давялі да паразуменьня старонаў. Падпісаны агульны і гандлёвы дагавор.

— Ангельскія газэты пішуць, што **Японія** заказала ангельскай фірме Вікэрса 140 тысяч кулямётаў.

— 6-га жніўня г.г. адчынена над‘звычайнае паседжаньне **Югаславянскае** скупшчыны. Новы ўрад на чале з прэм‘ерам Давідовічам мае вясьці ўнутраную палітыку так, каб дайсьці да зблізжэньня паміж югаслаўскімі народамі: сэрбамі, харватамі і славенцамі. Быўшы прэм‘ер Пашыч выбраны прэзэсам клюбу радыкалаў, што разумеюць, як пераход гэтага клюбу да найвастрэйшае опозыцыі проці новага кабінэту Давідовіча.

— **Італьянскія** фашысты маюць гэткія пункты новае праграмы: ачышчэньне партыі ад непажаданых элемэнтаў, пэўныя пэрсональныя зьмены ў складзе цэнтральных уладаў і ў прэфэктурах, а таксама падняцьце дабрабыту рабочых сфэраў шляхам адпаведнага законадаўства.

— **Гішпанскі** дыктатар гэнэрал Прыма-дэ-Рывэра ледзь не загінуў падчас аварыі карабля, на якім ён рабіў прыберажную інспэкцыю. Карабель быў кінены хвалямі на скалы і амаль дашчэнту разьбіты.

— У **Турцыі** камісія нацыянальн. сабраньня прыняла пастанову аб аднажэнстве. Толькі ў выняткoвых выпадках, паводлуг новага турэцкага права, можна будзе мець другую жонку.

— Як паведамляюць з Рыо-дэ-Жанэйро **бразыльскае паўстаньне** прынясло шкоды па 2 мільёны фунтаў штэрлінгаў (20 мільёнаў залатых рублёў).

— Пры Ц. В. К. Савецкай Беларусі створана спэцыяльная камісія па надзяляньню жыдоў зямлёю. Разам з тым выданы загад, каб пры разьдзеле запаснога зямельнага фонду браліся пад увагу і заявы жыдоў, як адзінокіх, так і колектываў, якія займаліся земляробствам. Як відаць гэты проект зьяўляецца першым крокам дзеля правядзеньня ў жыцьцё таго пляну аб перавярненьні местачковых жыдоў у земляробаў, які быў раней распрацованы ў Маскве.

— З **Масквы** даходзяць весткі, што бальшавікі закупілі ў Італіі і Голяндыі 700 аэропляпаў, 40 танкаў, 75 падводных чаек і вялізны лік кулямётаў.

— **Лёнданскі** карэспандэнт „Vos. Ztg“. піша, што нямецкая дэлегацыя згадзілася на тое, каб пытаньне аб ваеннай эвакуацыі Руры было абгаворана не на офіцыяльных нарадах конфэрэнцыі паміж зацікаўленымі дзяржавамі г. з. Нямеччынай, Францыяй, Бэльгіяй і быць можа, таксама і Англіяй.

— З **Лёндану** паведамляюць, што Макдональд заявіў нямецкім міністрам Марксу і Штрэзэману аб неабходнасьці якнайхутчэйшага канца конфэрэнцыі. Прэзэс нямецкае дэлегацыі адказаў, што будзе зроблена ўсё, каб сваячасна закончыць конфэрэнцыю.

---

# Агляд прэсы.

## „З прычыны нападу на Стоўпцы“.

Пад гэткім загалоукам „Robotnik“, крытыкуючы „рэформу“ п. Керніка, зьмяніўшага пагранічную ваенную варту на паліцэйскую, разважае гэтак:

...Але „рэформа“ п. Керніка прынясла фатальныя рэзультаты. Замест 22 тысяч вайсковых, вышкаленых у вартаўнічай службе, добра азброеных і экіпіраваных, прырыхтована (да кастрычніка мінул. году) каля 9 тыс. паліцыянтаў, людзей новых, з невядомым мінулым, неазнаёмленых з мясцовымі варункамі, блага апраненых і яшчэ горай аплачваных. Людзі гэтыя мелі пільнаваць парадак на працягу 1700 кілёмэтраў, маючы ў дадатку цачыненьне з суседам бальшавіцкім і літоўскім.

Нічога дзіўнага, што ад часу вываду вайскавое варты пачалі множыцца напады бальшавіцкія, а ў меншай ступені літоўскія.

...Яшчэ горай. Тамтэйшая паліцыя, вярбованая *па poczekaniu* і блага аплачваная, дэмаралізуецца штораз болей. Есьць у ёй шмат элемэнтаў бандыцкіх (усяго колькі дзён назад чыталі мы аб засуджаньні 7 паліцыянтаў - бандытаў на Віленшчыне). Пэўна-ж, мясцовае насяленьне ня можа мець веры да гэткіх людзей, а натрапіўшы на бальшавіцкую агітацыю, лёгка яе слухаецца, асабліва, калі бальшавікі выступаюць перад насяленьнем, як яго абаронцы і ўмела выкарыстоўваюць усе памылкі польскае палітыкі, а таксама недамаганьні крэсовае адміністрацыі для сваіх мэтаў.

Прычыны пагранічнага бандытызму газэта паясьняе гэтак:

За пагранічныя напады трэба падзякаваць гэткім акалічнасьцям: 1) саўсім заганнай і недастатачнай ахове граніц няздольнымі паліцыянтамі, 2) благой „крэсовай“ палітыцы ўраду і адміністрацыйных уладаў, 3) граніца адчынена для бальшавікоў і няпрыязныя, а нат' і варожыя адносіны насяленьня да польскай паліцыі і адміністрацыі — ствараюць ідэальны абшар для бальшавіцкае агітацыі, 4) благая вера і правакацыйныя адносіны бальшавікоў да Польшчы...

Аж пакуль не ўрэгулюем адносін на крэсах, дбаючы ня толькі аб інтарэсе Дзяржавы, але ў роўнай меры аб патрэбах тамтэйшага насяленьня — датуль выпадкі ў родзе нападу на Стоўпцы будуць паўтарацца —

заключае „Robotnik“.

* * *

Апрауданьне падсудных, што абвінавачваліся у прыняцьці актыунага удзелу у Кракаускіх непарадках, парадзіла вялікую сэнсацыю ува усіх палітычных кругох, асабліва правіцовых. Гэта зьявішча, ненармальнае з іх пункту гледжаньня, вельмі знаменнае і характарнае для адрадзіўшайся Польшчы, зьяуляецца нічым іншым, як спадчынай „паваеннага расстрою і памутненьня розуму“.

„Gazeta Warszawska“, абгаварваючы гэты, запрауды неспадзяваны і паважны для будучыны Польшчы факт, гэтак выказвае абурэньне свайго патрыятычнага пачуцьця:

Апраўдальны вэрдыкт глыбака абражае пачуцьцё справядлівасьці кожнага грамадзяніна; і да таго яшчэ зусім выразна і ясна будзе служыць дзеля падахвочаваньня да праступленьня. Гэты вэрдыкт ёсьць грознай праявай настрояў у пэўных, прынамсі, сфэрах нашага грамадзянства, ёсьць фактам, каторы будзе мець непажаданую спадчыну ў жыцьці, бо мусіць парадзіць пераконаньне ў бяскарнасьці і магчымасьці ўчыненьня забурэньняў і аружнага выступленьня супроць легальнай улады, пільнуючай лад і парадак.

Тлумачачы далей усю сур‘ёзнасьць гэтага здарэньня пры сучасных варунках унутранага жыцьця гаспадарства і страшэнных высілках бальшавіцкіх атак з вонку, чынам завадненьня Польшчы бальшавіцкай агітатарскай літэратурай і агентамі, — газэта пакладае усю віну на партыю польскіх соцыялістых (П. П. С.):

Ня гледзячы на кракаўскі прыгавор, падказаны страхам, несьвядомасьцю і палітычнымі імкненьнямі, ў грамадзянскім разуменьні адпавед-

---

— Зьніштож! — плачучы загаманіу прыстау.

Выпітая гарэлка надала моцы і адвагі вураднiку і той устау, выпрастауся і загаманіу:

— Што-ж, я рад. Прыказ споуню! Я, вось, проект дауно нашу у кішані, але ніяк ня мог, вось, дабрацца да вас вашаскародзіе, ня было сьмеласьці, — і, сказаушы гэта, ен выцягнуу зложаную паперу і падау спрауніку.

Той схапіу і працягваючы да прыстава, прыказау чытаць.

Плян зьніштажэньня канторы быу просты: Узарваць у паветра усю хату з усімі зладзеямі, а зрабіць гэта бярэцца Мятла.

Пакуль чытау прыстау паперу, мары аб падвышэньні і наградах далёка занясьлі Мятлу.

— Дружа, зрабі! — кінууся на шыю, спужаушагася Мятлы, спраунік.

Прышоушы да прытомнасьці, Мятла ускочыу і гаркнуу паваеннаму:

— Слухаю!

Да самай раніцы пілі гарэлку спраунік, станавы і Мятла, цалаваліся, плакалі і на раніцы, саусім ахмялеушы, Мятла выпауз з габінэту і ад'ехау, пакінуушы сьпячымі і п'янымі спрауніка на канапе, а прыстава на падлозе.

Праз тыдзень усе газэты грымелі весткамі, што Рубяжыцкая кантора зьніштожана. Героямі гэтага, зьяуляюцца спраунік Сыч і прыстау Должыкау, а аб зрабіушым усё гэта вурадніку Мятле было сказана толькі тры словы: „Вураднік Мятла адтрымау медаль „За усердіе“...

Ад кары уцяклі толькі Дзядзёнак і унук яго Пётра...

---

II.

## ГАНДЛЯРЫ.

Гоніць вецер хмары па небе, сярдзіта грукаціць дождж па сьцёблах і лістох дубоу — плача непагода.

У хаце цёмна. Смалякі дауно ужо пагарэлі, але класьці другіх ня хоча рыжы Дзядзёнак, а мо‘ забыуся, альбо мары занясьлі яго далёка. Ці яму цяперака да агню?

Чырвоны одбліск згасаушых вуглёу ледзьве асьвятляу вялікую галаву, пакрытую рыжымі валасамі, атсьвечавауся у вострых вачох Дзядзёнка...

Прыемныя мары былі у яго...

Вось ён малады, моцны, як дуб. З ім яго дзед Ярэм, сівы як голуб, але моцны дзед!

Пры успамінаньні аб ім уздыхае цяжка Дзядзёнак, пасьля, моцна сьціснуушы кулакі, ён успамінае далей...

Вось, вось ночка... Прыемна сьвеціць з высокага неба месячык, сьнег хрумсьціць пад нагамі яго і дзеда Ярэма. Вось яны ля тыну падлазяць да карчмы, ля якой стаіць тройка коняу і багатыя сані з мядзьведжай скурай. Смачна ядуць коні канюшыну, нясецца з карчмы песьня, плача гармонік. Моцна калоціцца сэрца у яго. Вось яшчэ міг, яны з дзедам каля коняу, хвіля — дзед падбірае лейцы, а ён са стрэльбаю сядае у сані і зорка глядзіць на дзьверы карчмы. Усё гатова. Коні крануліся і у той міг раздауся стрэл і моцны крык «стой!», як нажом, разрэзау цямніну ночы. Але дзе там!

Дзед сьвіснуу і тройка панясласся...

Бах, бах, бах—грымяць ім усьлед стрэлы. Сьвішчуць кулі над галавой... Ці да стрэлау, ці да куль, коні не бягуць, а ляцяць, здаецца, і толькі пыл ад сьнегу рэжа вочы...

Божа! што гэта? Што гэта? Цямнее у вачох Дзядзёнка; чаму дзед схіліуся у сані і нешта шапоча яму маладому...

Схіліуся да яго ён, крыкнуу: — «Дзедка, а дзедка, што табе»?

Яшчэ мацней рванулі коні, ад крыку яго яшчэ хутчэй панясьліся...

— Дзедка родны, што табе?

— Памятай завет, ні ні... шапоча дзед і падае няжывы.

— «Добра дзедка, добра!» — шапоча Дзядзёнак пабялеушымі губамі, — «памятаць буду, памятаць буду»...

Праходзяць гады. Шмат троек зьвёз Дзядзёнак, шмат душ ляжыць на яго сумленьні, але гэтага мала. Здаецца яму, што дзедава душа жадае ад яго большай помсты!..

— Добра, дзедка, добра! — гавора сам з сабой Дзядзёнак.

Плача за вакном непагода.

— Пара! — сказау ён глухім голасам і сам спужауся свайго голасу.

**Дзяргач.**

*(Працяг будзе).*

